*«Вытраўліваць са свядомасці гісторыю, культуру, мову нашых продкаў небяспечна для жыцця саміх нашчадкаў. Спадзяюся, калі-небудзь гэта ўсвядомяць і тыя, хто сёння гвалтоўна і збянтэжана яе вынішчае».*

*Тацяна Пладунова*



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА



**Вынесеныя прысуды шостай партыі абвінавачаных па «справе карагодаў».**
**14 чалавек пакараныя тэрмінамі ад паўтара да двух гадоў «хіміі» і «хатняй хіміі».**

**Андрэю Аляксандраву, журналісту, медыяменеджару, паэту, выставілі дадатковае абвінавачванне – ва ўхіленні ад выплаты падаткаў, што пацягнула за сабой прычыненне шкоды ў буйным памеры.**









**Аляксандр Багданаў («Папа Бо»), дырэктар, арт-мэнеджар і ды-джэй культцэнтра «Корпус», Максім Крук, сцэнограф, і Лізавета Неўмяржыцкая, арганізатарка культурных імпрэзаў, былі затрыманыя супрацоўнікамі ГУБАЗіК 2 верасня.**
**У Аляксандра Багданава пры ператрусе быў канфіскаваны ды-джэйскі пульт. Усіх вынавацяць у вырабе, захаванні і распаўсюдзе экстрэмісцкіх матэрыялаў.**



**Віктару Якубаву, Дацэнту Полацкага ўніверсітэта, выкладчыку гісторыі, прысудзілі 15 сутак арышту нібыта за распаўсюд экстрэмісцкіх матэрыялаў. Раней Віктар Якубаў ужо двойчы сядзеў па 15 сутак па артыкуле 23.34.**



**Аляксандра Цярэшчанку, настаўніка музычнага каледжа імя Глінкі, пакаралі 15-суткавым арыштам за «распаўсюд экстрэмісцкіх матэрыялаў».**



**Вадзім Міхайлаў — намеснік старшыні першаснай арганізацыі Беларускага незалежнага прафсаюзу ААТ «НАФТАН», быў затрыманы за налепку з «Пагоняй» на аўтамабілі. Суд мусіць адбыцца 6 верасня.**

**Міжнародны фестываль духоўнай музыкі «Магутны Божа», які мусіў адбыцца ў Магілёве, адменены без тлумачэння прычын. Фестываль праходзіў з 1993 года, яго назвалі па вершы Наталлі Арсенневай «Магутны Божа», а песня на яго стала адным з сімвалаў пратэстаў 2020-2021.**



**Прыпыняецца выхад папяровай версіі газеты «Літаратурнай Беларусі».**

Адзіную **беларускамоўную школу** ў Камянецкім раёне – у вёсцы Амельянец – зачынілі.





Кіраўніцтва **Універсітэта культуры** ліквідавала кафедру этналогіі і фальклору. Супрацоўнікаў паставілі перад фактам, калі ў педагогаў і студэнтаў ужо былі распісаныя творчыя планы на наступны год. Прычына кроку тлумачыцца «аптымізацыяй» працэсу.

**Мікіта Емельянаў**, палітвязень, з 9 чэрвеня пераведзены на строгі турэмны рэжым у Магілёўскую турму №4. Там ён вырашыў набываць кнігі ў гандлёвай сетцы, як гэта прадугледжана Крымінальна-выканаўчым кодэксам. Аднак адміністрацыя забараніла яму набываць кнігі гэта праз інтэрнэт, не дазволіла гэтага зрабіць і родным хлопца.



Мікіта знайшоў адну краму, якая пагадзілася дасылаць замову ў турму, але камунікацыя з ёй цягнулася тры месяцы. Акрамя гэтага, палітвязню перасталі выдаваць газету «Новы час» і забаранілі аформіць падпіску на «Каталіцкі веснік», бо «асуджаным забараняецца атрыманне, набыццё, захоўванне і распаўсюд выданняў, якія прапагандуюць вайну, распальванне расавай, нацыянальнай, рэлігійнай варожасці, гвалту або жорсткасці, выданняў парнаграфічнага характару, а таксама падпіска на іх».



**Эрык Арлоў-Шымкус**, музыка, паведаміў, што ён больш не падазраваны па крымінальнай справе па артыкуле 342 – арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак альбо актыўны ўдзел у іх.

# 2. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ



**Алесь Пушкін <u>застаецца</u> за кратамі. Яму працягнулі тэрмін утрымання пад вартай яшчэ на тры месяцы.**



**Стася Міронцава, палітзняволеная мастачка:**
***«А яшчэ на тым тыдні ўпершыню схадзіла ў тутэйшую «баню». Да гэтага мылася ў атрадзе. І яна крутая аказалася. «Кабінкі» з абодвух бакоў агароджаныя і іх шмат! Мыешся адзін! У СІЗА пад адной лейкай мы мыліся па 2-3 чалавекі... як пашанцуе».***



**Марыя Калеснікава ў апошнім слове працытавала ўрывак з Альгерда Бахарэвіча. Яна паразважала пра маральны выбар, сумленне, павагу і любоў да людзей і адзначыла, што судовы працэс над ёй і Максімам Знакам увойдзе ў гісторыю, якім бы ні быў прысуд.**



У ВК-1 г. Наваполацка, дзе адбывае пакаранне Віктар Бабарыка, ён не можа трапіць у бібліятэку, паколькі іх працоўныя гадзіны супадаюць.

У Андрэя Кабанава, блогера і актывіста, які быў затрыманы 16 жніўня (рт. 328 КК – распаўсюд наркотыкаў), здарыўся сардэчны прыступ у ізалятары ў Жодзіна, д зе ён утрымліваецца. Ён дастаўлены ў турэмны шпіталь.





Зміцера Шыманскага, дудара, палітзняволенага, які быў затрыманы 2 жніўня і ўтрымліваўся на Акрэсціна, перавялі ў Жодзіна. Яго блізкія паведамілі, што Зміцер захварэў на COVID-19, яму адмовілі ў шпіталізацыі і адмаўляюцца прымаць лекі ад сваякоў па-за звычайным графікам перадач.

# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ



**Творцы, якія апынуліся ў цяжкіх абставінах праз падзеі ў Беларусі, сабраліся на рэзідэнцыі ў Бялцы Татршаньскай у паўднёвай Польшчы. Удзельнікі прайшлі рэабілітацыю праз адмысловыя трэнінгі, музыку, тэатр і мастацтва. Прафесіянальныя музыкі і акторы, а таксама пачаткоўцы, стварылі «Эмацыйную оперу па-за гульнёй».**

**Другі фестываль беларускай фальклорнай песні «Беларусь старажытная» пачаўся ў Вільні 29 жніўня. Яго арганізатарамі выступаюць Культурны цэнтр імя Якуба Коласа і Таварыства беларускай культуры ў Літве.**



**Выстава «Панэльныя» Лізаветы Хіхлушкі адкрылася 2 верасня ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў у Мінску.**




**«Еднасць і спачуванне» — мастацкі праект беларусак.**
***«Усіх нас яднае боль за тых, хто захоплены ў палон, скалечаны і забіты фашысцкім рэжымам. Але мы ведаем, што цемра не вечная, дабро пераможа, агністая чырвань і светлая бель беларускага сцяга залунае над вызваленай краінай».***




**Новы альбом**
**ад гурта РСП – «Ашчушчэнія»**

**Новы выпуск**
**праекта Казкі Магістра – «Мудры Салімон».**




**Міжнародны фестываль мастацтваў «Арт-Мінск» адчыніўся 3 верасня.**





**Міхаіл Аршынскі,**
**беларускі відэажурналіст,**
**атрымаў галоўны прыз на Hinzpeter International Press Awards**
**у Паўднёвай Карэі за дакументальны фільм «Не бойся».**

**Міжнародны фестываль перфарматыўнага мастацтва «Перформенск» прайшоў у Мінску 3-5 верасня.**



Фота: The Guardian

**Спектакль «Час жанчын» працягвае месяц Беларускага свабоднага тэатра.**

**На Зельвеншчыне вясковым пустуючым хатам надаюць новае жыццё – там ствараюць мясцовыя краязнаўчыя музеі народнага побыту.**



# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ

З ліста **Віктара Бабарыкі** з калоніі:
***«Добрыя гісторыі за «сценамі» здараюцца толькі ў сітуацыі вызвалення. Але самае галоўнае, што ўбачыў — гэта людзі. Яны паўсюль і абудзіць у іх чалавечае можна амаль заўсёды. Нягледзячы на жаданне сістэмы ператварыць іх усіх у непісьменны і тупы масіў, мы не ўсе гэтаму паддаемся. Жыццё ёсць усюды».***





**Аліна Нагорная**, моўная экспертка:
***«Беларуская мова вернецца ў Беларусь, калі ў Беларусь вернецца законнасць. Таму што зараз беларуская мова дзяржаўная, нават па цяперашняй Канстытуцыі. Дзяржаўная мова — значыць, на гэтай мове павінна быць усё — тэлебачанне, кожны дакумент, войска, адукацыя і г.д. І калі ў нас стане ўсім да закону, тады беларуская мова адразу вернецца».***

**Андрэй Хадановіч**:
***«Знікненне творчых адзінак, якія б махнулі рукой на творчасць і пайшлі проста банальна зарабляць грошы чымсьці іншым — гэта параза культуры, параза грамадства, урэшце рэшт параза Беларусі. Таму мы павінны шукаць і знаходзіць сродкі дзеля ўзаемнай падтрымкі».***





**Ганна Севярынец**:
***«Было б здорава, каб кожны з нас паставіў у сябе дома партрэт беларуса-папярэдніка, важнага для вас. Папярэдніка, настаўніка, сваяка, таго, за кім вы ідзеце сваёй сцежкай. Каб пра гэты партрэт і пра чалавека на ім ведалі б дзеці. Каб мы ведалі, дзе гэты чалавек пахаваны і глядзелі б за гэтым пахаваннем. Каб мы разумелі, што тыя, хто быў да нас, ужо шмат чаго ведалі і шмат чаго напрацавалі з таго, што мы цяпер праходзім наноў. Бо зямля ў нас адна, праблемы адны з веку ў век, а час чалавечага жыцця кароткі».***

# 5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

**Брытанскі часопіс Chanter, адзінае ў свеце спецыяльнае перыядычнае выданне, прысвечанае дудам і дударству, напісаў пра затрыманне і зняволенне музыкаў з беларускага гурта Irdorath.**







**Марыя Калеснікава ў шорт-лісце прэміі Вацлава Гавела за правы чалавека за 2021 год.**

**У Гдыні адбыўся канцэрт салідарнасці, на якім прагучалі песні на беларускай і польскай мовах у выкананні Андрэя Хадановіча, Марціна Жмуды і Пшэмыслава Лембіча.**







**Каля 30 польскіх журналістаў напісалі кнігу пра калег у Беларусі – «Партызаны. Журналісты на прыцэле Лукашэнкі». У кнігу ўвайшлі гісторыі 20 журналістаў з розных СМІ ў Беларусі. Даход ад продажу прызначаць на падтрымку рэпрэсаваных.**

# 6. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**У верасні 3 чалавекі, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі.**

**Гэта Максім Знак, юрыст, літаратар і музыка (4 верасня);**
**Аляксандр Васілевіч, менеджар культуры (14 верасня)**
**і Даніла Ганчароў, мастак па святле (27 верасня).**

**Адрасы, на якія можна дасылаць віншаванні:**

**Максіму Знаку і Аляксандру Васілевічу – СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2;**

**Даніле Ганчарову – Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.**

